ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 27 (2553)
ПЯТНІЦА
2
ліпеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## У МАСКВЕ ПРАЦУЕ ПЯТЫ З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ СССР





Прэзідыум з'езда. З дакладам выступае Г. Маркаў.

У зале пасяджэнняў. На першым плане (справа налева): М. Калачынскі, П. Панчанка, П. Кавалёў.

П. Пестрак, Я. Брыль (ніжні здымак злева), І. Шамякін, А. Макаёнак, І. Грамовіч (крайні справа) у зале пасяджэнняў.





чыць, што мы павінны амнісціраваць нават слабыя творы толькі таму, што яны напісаны на патрэбную тэму. Наадварот, важнасць тэмы патрабуе, дзеля таго, каб пазбегнуць дыскрэдытацыі яе рознымі кан'юнктуршчыкамі, высокіх крытэрыяў нашых ацэнак, бо размова ідзе аб мастацкіх творах, якія маюць велізарнае выхаваўчае значэнне.

Перад намі — летапісцамі і песнярамі Краіны Саветаў — пастаўлена партыяй вялікая задача — адлюстраваць у сваіх творах гераічны шлях нашага народа — народа, будаўніка новага, камуністычнага грамадства. І мы яе павінны выканаць. І мы яе выканаем з гонарам. Зарукай гэтаму з'яўляецца наша згуртаванасць і вернасць ідэям партыі, любоў да нашай вялікай сацыялістычнай Радзімы.

Налета споўніцца 50 гадоў СССР. Гэту слаўную гадавіну мы будзем адзначаць як хвалюючае і светлае свята дружбы нашых народаў.

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая звергнула ўладу эксплуататараў і абвясціла пра пачатак эры сацыялізма, на адзіна правільнай аснове ленінскага вучэння зацвердзіла роўнасць і суверэннасць усіх народаў нашай Радзімы і адкрыла новыя перспектывы для ўсебаковага эканамічнага і культурнага іх развіцця і росквіту.

Жыццё і час, цяжкія выпрабаванні ў гады Вялікай Айчыннай вайны былі суровай праверкай нашай дружбы, нашай вернасці ідэям партыі. І яны не толькі з гонарам вытрымалі гэту праверку, але яшчэ больш загартаваліся і ўзмацнелі. Аб гэтым гаворыць і наша беларуская зямля, не раз пераараная ваеннымі бурамі, усеяная брацкімі магіламі лепшых сыноў і дачок народаў нашай вялікай Радзімы, якія адстаялі нашу свабоду і незалежнасць.

Аб гэтым гавораць адроджаныя з попелу і руін нашы сёлы і гарады, нашы прасторы калгасных палёў, што шумяць каласамі. Аб гэтым гаворыць душа народа — яго мастацтва, яго літаратура.

Час, у які мы жывём, патрабуе ад нас, пісьменнікаў—байцоў ідэалагічнага фронту, пільнай увагі да падзей, якія адбываюцца ў свеце. Нас натхняюць і радуюць поспехі нашага савецкага народа, які будуе камунізм, радуюць поспехі нашых сяброў, якія ўступілі на светлы шлях сацыялізма, але нас глыбока трывожыць і абурае тое, што англа-амерыканскі імперыялізм стараецца сілай зброі падавіць, патапіць у крыві вызваленчую барацьбу народаў Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, распальвае небяспечныя вогнішчы канфліктаў і войнаў, што пагражаюць свету найвялікшымі бедствамі.

Чалавецтва ўжо не раз, па віне гандляроў смерцю, стаяла над бяздоннем. І калі гэтыя агні пажараў не перараслі ў полымя сусветнай вайны, дык гэта толькі дзякуючы мудрай палітыцы нашай партыі, пільнасці нашага народа і ўсіх міралюбівых народаў свету.

Адказнасць за мір, за жыццё, за шчасце на зямлі ляжыць на кожным сумленным чалавеку. Яна ляжыць і на нас, пісьменніках, і мы аддадзім усе свае сілы, здольнасці, каб над зямлёй — гэтай калыскай чалавецтва — заўсёды ззяла сонца, заўсёды звінелі песні дружбы і шчасця.

**тамy, што гэтае пытанне займала цэнтральнае месца ў прамовах Максіма Танка, Грыгола Абашыдзе, Мірзы Ібрагімава і іншых майстроў братніх літаратур.**

**Хачу адзначыць, што прысутнасць на адкрыцці з'езда Палітбюро ЦК КПСС яшчэ раз засведчыла тую надзвычайную ўвагу, якую партыя, савецкі народ, уся наша грамадскасць надаюць развіццю літаратуры і мастацтва.**

**Другі дзень работы з'езда быў азмрочаны сумным паведамленнем аб гібелі слаўных сыноў нашай Радзімы касманаўтаў Дабравольскага, Волкава і Пацаева. У дзень адкрыцця ў зале гучаў іх жывы голас, словы іх сардэчнага прывітання. І вось мы, дэлегаты і госці, ушаноўваем іх памяць хвілінай маўчання, і на вачах многіх людзей, якія пражылі доўгае жыццё, прайшлі вайну, пахавалі нямала блізкіх і сяброў, — слёзы...**

**Не магу не адзначыць і той прыкметны энтузіязм, уздым, той добры аптымізм у ацэнцы поспехаў усіх нацыянальных літаратур і ў вызначэнні задач, якія вынікаюць з гістарычных рашэнняў XXIV з'езда КПСС. Гэта адчуваецца і ў прамовах, і ў гутарках у кулуарах, пры сустрэчах з сябрамі з іншых рэспублік. Прадстаўнікі многіх народаў, мы вырашаем важныя і складаныя пытанні нашай партыйнай дзейнасці — пісьменніцкай працы — як сыны адной вялікай і дружнай сям'і.**

# МУЖНАСЦЬ

ПАМЯЦІ
КАСМАНАЎТАЎ
Г. ДАБРАВОЛЬСКАГА,
У. ВОЛКАВА,
В. ПАЦАЕВА


Г. Ц. ДАБРАВОЛЬСКІ.


У. М. ВОЛКАЎ.


В. І. ПАЦАЕЎ.

**...І зямля не пахіснулася на сваёй восі, і рэкі не выйшлі з берагоў, і не апала на зямлю неба...**

**Іх называлі сокаламі. «Саколікамі» назаве цяпер іх не адна, не толькі родная маці.**

**Страта гэта надзвычай вялікая. Гэта сапраўды ўсенароднае гора.**

**Усе мы людзі, усіх нас вучыць жыццё, усе мы вучымся і павінны вучыцца ў жыцця. І мы павінны перайначваць жыццё. Гэта так. Жыццё вялікае, яно сягае нават да Космасу, бо няма межаў пазнанню і высакародным памкненням чалавека. Бо чалавек стаіць нагамі на зямлі, а галавою падпірае неба. Не міфічна наіўныя Перуны палохаюць ужо яго. Рызыкоўныя крылы Ікара не перашкодзілі чалавеку сесці ў самалёт. І не перашкодзяць яшчэ далей і далей, яшчэ раз і яшчэ раз ісці ў Космас. Нягледзячы на тое, што тут могуць быць страты. Але ж хто пакладзе мяжу прагнай волі чалавечага пазнання, хто выцерабіць роўную дарогу для няўрымслівых і мужных!**

**...Схілім галовы. Пасля таго, як адышоў ад нас першы зорны чалавек Юрый Гагарын, мы, бадай, не ведалі такой страты...**

**Яшчэ зусім нядаўна гучаў іх голас адтуль, з Космасу, — для нас, прынамсі, для пісьменнікаў адной шостай часткі планеты.**

**Іх няма. Сваім мудрым і трагічным лёсам яны кажуць нам: будзьце мужнымі.**

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ.**

# ЗАСТАЛІСЯ ТОЛЬКІ ТРОЕ...

**Нядаўна мне давялося быць на Слонімшчыне, дзе відавочцы расказалі аб трагедыі вёскі Васілевічы. Напярэдадні гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў я хачу расказаць пра яе чытачам «Літаратуры і мастацтва», каб яна лішні раз нагадала аб тым, што трэба пастаянна змагацца супраць сіл, што спрабуюць развязаць новую сусветную вайну.**

**Аўтар.**

САШУ яшчэ не было трох гадоў, калі пачалася вайна. Але і тады ўжо ён, здаецца, разумеў, што такое фашыст. Нядобрыя весткі аб акупантах і іх памагатых прыносілі старэйшыя браты — Вова і Ваня, сястрычкі — Вольга і Соня. Да таго ж яму самому не адзін раз даводзілася бачыць, як гітлераўцы гналі па вёсцы звязаных людзей, чуць плач жанчын. Калі ў вёсцы з'яўляліся немцы, людзі звычайна хаваліся.

У гэты дзень уся сям'я Сасноўскіх устала раней. Антон Сцяпанавіч — бацька Сашы — спяшаўся ў горад. Трэба было адвезці нарыхтоўку і паспець купіць сяго-таго для дому.

Праз гадзіну пасля ад'езду бацькі раптам у двары пачуўся тупат. Задыхаўшыся, у хату ўбеглі спалоханыя Воля і Соня. «Мамачка, — закрычалі яны ў адзін голас,—сяло акружаюць немцы!»

З грукатам адчыніліся дзверы, і ў хату ўваліўся азызлы, з аўтаматам на жываце, гітлеравец. «Партызан, выходзь!» — гаркнуў ён на ўсё горла і пайшоў за печ, за якой, стаіўшыся, сядзеў Саша. Убачыўшы немца, ён яшчэ бліжэй прыціснуўся да печы, закрыў вочы рукой. Фашыст падышоў да дзіцяці і капянуў яго ботам. Перакуліўшыся цераз галаву, Сашка апынуўся пасярэдзіне хаты. «Шнэль, шнэль!»— гаркнуў яшчэ раз фашыст на дзяцей. «Яны ж босыя, раздзетыя, куды вы іх гоніце?»—са слязьмі кінулася маці да карніка. «Там будзе цёпла»,—праз зубы працадзіў гітлеравец і аўтаматам штурхнуў Марыю Фёдараўну ў грудзі.

На вуліцы Марыя Фёдараўна ўбачыла, як карнікі гналі ў канец вёскі іншыя сем'і. Больш як 130 чалавек яны сагналі ў двор Адама Герасімчыка. Уцячы з двара было немагчыма. Ён быў ачэплены немцамі і паліцаямі, узброенымі кулямётамі і аўтаматамі.

Пад абед у Васілевічы прыбыў на легкавой аўтамашыне начальнік аднаго з аддзелаў слонімскага гебітс-камісарыята Экерт. Разам з ім прыехаў і здраднік, жыхар гэтай жа вёскі, солтыс Дзмітрый Герасімчык. Немец важна падышоў да варот, акінуў пагардлівым позіркам двор, поўны жанчын і дзяцей, запытаўся ў солтыса: «Хто з іх партызан?» «Усе яны бандыты і партызаны»,—таропка адказаў халуй.

Пад'ехаў грузавік. З яго выскачыла з дзесяць гітлераўцаў і паліцаяў. Адчынілі вароты і вывелі з двара першыя дзесяць чалавек, якія стаялі бліжэй. Сярод іх была Феля Пятроўна Герасімчык з трохгадовым Косцем, Ганна Паўлаўна Герасімчык з двухгадовым Колем, Марыя Герасімчык з грудным дзіцем, і трое дзяцей Кацярыны Харытончык. У іх доме фашысты не засталі бацькоў. Дзецям нават не далі апрануць цёплае, а перапалоханых выгналі з хаты.

Групу гэту пад канвоем павялі на могілкі, якія былі за 700—800 метраў ад вёскі. Там усіх дарослых і дзяцей паставілі над ровам. Загадана было глядзець уніз і не азірацца. Адышоўшы крокі два назад, забойцы прыцэліліся ў патыліцы сваім ахвярам, далі залп з пісталетаў. Дзевяць чалавечых цел пахіснуліся, упалі ў роў. Дзяўчынка, якая стаяла з левага краю, з крыкам «ма-а-а-ма» ўпала назад. Ёй куля трапіла ў плячо. Фашыст падышоў да параненай, з размаху ўдарыў яе ботам у галаву і скінуў у роў.

Тым часам на могілкі былі дастаўлены яшчэ 10 чалавек. Зноў загад — «глядзець уніз і не азірацца», дзесяць жыццяў зноў абарвалася...

У восьмы дзесятак трапіла Марыя Фёдараўна. Яе выштурхнулі з двара з Сашам на руках. Старэйшыя дочкі Воля і Соня з трыма малодшымі брацікамі адышлі ўглыб двара. Калі прыйшлі на месца расстрэлу, роў быў амаль поўны трупаў. Убачыўшы мёртвых, акрываўленых людзей, пяцігадовая дзяўчынка Адама Цімафеевіча Герасімчыка з плачам кінулася пад ногі фашыстам і пачала прасіць: «Паночкі, не забівайце нас, мы не вінаватыя!» Фашыст штурхнуў дзіця нагой, а потым стрэліў. Марыя Фёдараўна яшчэ цясней прытуліла Сашу да грудзей... Падаючы, яна страціла прытомнасць, але не выпусціла хлопчыка, прыкрыла яго сваім целам. Праз імгненне Марыя Фёдараўна адчула востры боль у назе і цёплую кроў, якая сцякала па яе руцэ з галавы Сашы.

У гэты час на могілкі прывялі чарговую групу. Яе паставілі крокаў за дзесяць ад таго месца, дзе ляжала Марыя Фёдараўна. «Глядзець уніз і не азірацца!»—прагучала каманда. Марыя Фёдараўна затаіла дыханне, мацней прыціснулася да зямлі і да свайго, здавалася, ужо мёртвага сынка. Раптам чуе: «Ма-амка!» Гэта Воля, гледзячы ўніз у роў, убачыла маці. Марыя Фёдараўна здрыганулася, па целе прайшлі халодныя дрыжыкі. Ледзь адкрыўшы вочы, яна ўбачыла жахлівую карціну. Схіліўшы галовы над ровам, стаялі справа налева пяцёра яе дзяцей, потым тры жанчыны з малымі на руках. Бліжэй за ўсіх да яе стаяла Воля. Твар яе быў бледны і спалоханы, на вачах слёзы. Яна трымала за руку малодшага свайго брата Ваню, а ён — Вову. Двухгадовы Лёша, які не разумеў усёй гэтай трагедыі, адной ручкай трымаўся за Вову, другой за руку старэйшай сястрычкі Соні.

«Ма-а-мка!» — крыкнула Воля і, павярнуўшыся да карнікаў, з плачам папрасіла: «Паночкі, дазвольце мне легчы побач з мамай», «Найн, цурук!» — гаркнуў фашыст і ва ўпор стрэліў у Волю. Прагрымелі яшчэ дзевяць стрэлаў, і яшчэ дзевяць чалавечых жыццяў абарвалася.

Марыя Фёдараўна не варушылася. Адчуўшы дыханне Сашы, які ляжаў пад ёй, яна цяпер думала толькі аб ім. Яшчэ некалькі разоў яна чула каманду «глядзець уніз і не азірацца», некалькі разоў грымелі залпы, потым стала ціха. Але ўставаць Марыя Фёдараўна ўсё ж не рызыкавала. І толькі пад вечар, калі на могілках пачула галасы знаёмых жанчын, яна асцярожна павярнула галаву і адкрыла вочы. Потым прыўзнялася, але ўстаць на ногі не змагла, аслабела, многа крыві выцекла з параненай нагі. Прыкметы жыцця падаваў і Саша, хоць уся галава яго была акрываўлена. Куля трапіла яму ў правае вуха і выйшла з левага боку шыі. Жанчыны, якім удалося пазбегнуць лёсу аднавяскоўцаў, аднеслі і адвялі параненых у вёску, а потым у горад, дзе ім была аказана медыцынская дапамога.

Марыя Фёдараўна і Саша доўга лячыліся і засталіся жывыя. Пасля вайны яна ўвесь час працавала ў калгасе «Перамога». Зараз на пенсіі. Жывы таксама і яе муж Антон Сцяпанавіч, які ў дзень расправы быў у горадзе. Саша, з-за цяжкага ранення ў галаву, доўга не мог вучыцца ў школе. Закончыў ён толькі два класы. Але калі вырас і фізічна ўзмужнеў, пайшоў працаваць прычэпшчыкам на трактары, а потым авалодаў спецыяльнасцю трактарыста. Зараз ён бацька траіх дзяцей.

Апрача Марыі Фёдараўны і Сашы, з расстраляных гітлераўцамі жыхароў вёскі Васілевічы засталася жыць таксама Феля Пятроўна Герасімчык.

Гэтыя трое з 117 расстраляных фашыстамі і расказалі мне аб трагедыі, якая здарылася 16 снежня 1942 года ў вёсцы Васілевічы. Як і трагедыю Хатыні і сотняў іншых беларускіх вёсак, яе забываць нельга. Аб гэтым трэба заўсёды памятаць, каб ніколі і нідзе больш такое не паўтарылася.

**В. МЯЛЕШКА,**
старшы навуковы супрацоўнік
Інстытута гісторыі АН БССР.

